№ 62 Ausgabe B.

# ГОМАН

№ 62 (258). Год III. Вільня, 9 жніўня 1918 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.)

## 8 жніўня.

**Заходні тэатр.**

*Фронт Рупрэхта Баварскага*: Наабапал Лic мы адбілі мясцовые францускіе наступленьні. На поўначы ад Соммы ворагі вялі вострые контратакі наабапал дарогі Брe-Корбі. Яны адбіты.

*Фронт нямецкага Насьледніка*: Між Суассонам і Рэймсам гарачая артылерыйская бітва. Дробные пяхотные сустрэчы на Ен і пры Вэль.

*Фронт Альбрэхта Вюртэмбэрскага*: У Вогезах удачные наступленьні на варожые лініі.

ПЕЦЯРБУРГ. Газэты наказываюць, што ў Архангельску, Валогдзе і іншых мястох аб'яўлен стан асады і прызываюцпа да аружжа ўсе комуністы. Усе чужынцы павінны выехаць у 24 гадзіны.

ГЭЛЬСІНГФОРС. На фінляндзкай граніцы арэштавалі некалькі прыехаўшых з Расеі асоб, аружных рэвольвэрамі і ручнымі гранатамі. Яны былі прысланы, каб падняць новае паўстаньне чырвонагвардзейцаў на першы кліч с Пецярбурга.

ГЭЛЬСІНГФОРС. Фінляндзкі начальнік генэральнага штабу, Прокопе, выйшаў у адстаўку. Яго намесьнік—маёр Сомеркале.

БЭРЛІН. Генэрал Сердзін, прадстаўнік гэтмана на пахаронах фэльдмаршалка Ейхгорна, высказаў вялікую пахвалу ўтворэнаму цяпер на Украіне немцамі ладу і супакою, дзякуючы каторым зруйнаваны вайной гасударственны арганізм пачынае выздараўліваць. «Нават там, дзе яшчэ выяўляюцца большэвіцкіе наплывы, пачынае ўзмацоўвацца вера ў вялікую будучыну багатай Украіны. Немцы занялі наш край пасьля таго, як у некалькі месяцаў 3.000 нашых найлепшых афіцэраў былі замучэны, застрэлены ці ўтоплены рэвалюцыанерамі".

ЖЭНЕВА. У апошніх бітвах на грэцкім фронцe грэцкіе егры 2 дывізіі крычалі «гура» каралю Константыну; тады францускіе войскі, стаяўшые на задняй лініі, пачалі абстрэліваць грекаў.

БЭРЛІН. Пад кіраўніцтвам міністра фінансаў, гр. Татішчэва, сюды прыехала крымская дэпутацыя с Сімфэрополя.

НІЖНІ НОУГАРОД. (П.Т.А.) 400 белагвардзейцаў і 400 асоб, запісаўшыхся у французскай місіі дабравольцамі на заходні фронт, арэштованы с прычыны падазрэньня ў арганізацыі контрэволюцыйных белагвардзейскіх банд.

ГААГА. Палітычнае палажэньне ў палудзеннай Афрыцэ—благое. Рэспубліканскі рух у быўшых бурскіх рэспубліках усё ўзмацоўваецца.

РОТТЭРДАМ. Бонар Лёў сказаў у англіцкай ніжняй палаці, што на 1 жніўня пазыкі Англіі, дадзеные саюзьнікам, даходзяць 35 мільёнаў марак, з гэтага больш трэціны дадзено Расеі.

## Мае думкі.

У кніжэчках беларускіх мы вельмі часта і здаўна чытаем гэтые для нас так дарагіе і надзейные слаўцы, што „загляне сонцэ і ў нашэ ваконцэ». Праходзяць гады за гадамі, але гады гэтые для нас вельмі цяжкіе, іх можна назваць чорнымі.—Бо над нашымі галовами былі навісшы, цёмные хмары. І вось узьняўся вецяр вялікі і разагнаў іх. Толькі шкада, што мы ня ўсе відзім гэта, бо вялікшая часьць нашых людзей ходзяць па даўнейшаму, насы паспускаўшы, і не бачуць, што над іхнымі сонными галовамі ўжо так сьветла.

І што яны думаюць?—Чаго яны чакаюць? Бог іх ведае. Але як цяжка гэтакіх людзей узвясьці на роўную сьцежку! Яны прывыклі ўжо да гэтай цямнаты. Можэ з іх каму і адбівае гэты блеск у вочы, але яны, лянівые, плюшчаць вочы як каты заспаные...

Баліць сэрцэ гледзячы на іх. Праўда, некаторые ўжо застарэліся ў гэткім жыцьці,—але прычым тут старасьць? Наша душа, сэрцэ ніколі не старэюць.

Душа старога і малога такая самая. Возьмем мы прыклад з малых дзяцей. Калі іх бацькі трымаюць срога ў сваіх руках, не даюць ім таго, чаго яны жадаюць, не пускаюць іх туды, куды яны хочуць ісьці, і дзеці ня могуць спрацівіцца: яны мусяць слухаць і мусяць сядзець, бядуючы ў сваім куточку, не раз заліўшыся горкімі слёзкамі. Але што яны тады думаюць? О, у мысьлях іх усюды досіць: яны думкай бягуць туды, дзе ім нябожна, бягуць, забаўляюцца, шумяць і часта можна спаткаць на дзіцячым тварыку блудзіўшую ўсьмешку: хоць цела іх бяз руху, але дух вольны,—яго ніхто ня можэ затрымаць, ані зьвязаць, бо дух сільнейшы за цела.

Дык ці-ж гэта можэ быць, каб нашы людзі былі так нячулые? Хто мог бы даць веру гэтаму. О, якжэ шкода такіх амярцьвеўшых людзей—але мы ня можэм на іх нічога казаць, і не маем права нават на іх наракаць: так, як яны нас, так і мы іх ня можэм зразумець,—бо кожны з іх асобны чэлавек. Гэта ўсё роўна, як птушка, злоўленая, ў клетцы: б'ецца яна да апошняй сваей сілы, узлятаючы то ў гару, то ізноў у дол, зморыцца без памяці, абломіць свае скрыдлачкі і ня можэ ўжо болей падняцца хоць і выпусьціць яе на свабоду, і мусіць доўга пралежыць на зямлі, пакуль адпачыне, пакуль соненька абагрэе яе, і с памочай лёгкага ветру яна зачынае ўзьлятаць. Дык вось і наш чэлавек так сама, як гэтая птушка, прыбіты ўсім чым, ня можэ гэтак скора атрасьціся ад усяго таго, што з ім было, яны яшчэ сонные, ім трэба так, як гэтай птушцэ, лёгкага ветру, каторы ім памог-бы ўстаць. Дык нясьмейцеся над імі, дайце ім хвіліну адпачыць!.. Мы ня можэм так многа і так скора ад старых вымагаць,—пакінем іх пакуль што спакойна.

А толькі нам трэба яшчэ аглядзецца.

Сколькі-ж паміж нас яшчэ маладых, якіе не маюць у душы ніякай ідэі, ня могуць нічога зразумець. О, з гэтакімі людзьмі яшчэ цяжэй жыць, і ім трэба часта стыдацца ўгледаючыся на дзяцей, каторые заўсёды да чагось рвуцца, чагось хочуць, каторые ня могуць усядзець у хаце ў дажджлівую пагоду, бо маркотна ім, што слоненька ня відзяць, і выглядаюць праз ваконцэ, ці не праходзяць хмары,—хоць тым дзецям: нічога ня трэба: спакойна маглі-б сядзець, але не, яны ня могуць так сядзець, бо ім душна, яны хочуць выйсьці на волю, хочуць сьветла, сонца.

Дзіця, ты хочэш сонца! А мы, людзі маладые і сільные, чы дадзёмся, каб над намі гэные хмары так доўга хадзілі, каб гэта цемната паміж нас блудзіла? О, не, не: гэтага ня будзе! Бо і мы, як тые дзеці, хочэм свайго сонца. Даволі таго, што заслона была нам вочы прысланіўшы. Але голас сілы нашай перамог: мы скінулі яе, апамяталіся многіе і сталі пазнаваць перш сябе, пасьля ўсё сваё, сталі зьбірацца разам. Але што-ж з гэтага: мы яшчэ чуліся надта слабымі, нам душна было пад гэтымі цёмнымі густымі хмарамі. Ажно прыйшоў такі час, што і іх разагнало: разьліліся яны,—але не дажджом, а кроўю чырвонай абліло ўсю зямлю. І вось цяпер толькі нам злягчэла,—і ціж не спакайней, як хмараў нема, як бура, каторая над намі так часта гуляла, сьціхла цяпер і мы можэм быць пэўнымі, што пярун ня стрэліць. Даволі таго, што ўжо раз стрэліў, строс цэлую Эўропу, і чатыры гады дрыжыць земля ад стрэлаў, напоеная людзкой крывёй.

Не адна матка залівалася горкімі сьлязьмі, прапускаючы свайго сынка ў чужую старонку—да чужых людзей; але мусіць ні адна не папыталася: «Чаго ты гэта йдзеш туды? Можэ згінеш, ня вернешся,—дык скажы хоць, за што». Адказаў-бы напэўна ён: «Іду, бо казалі; еду, бо паслалі цару служыць».

О, людцы родные, браты ў Бога і на зямлі вашай! Прачхніцеся, расчыніце свае вочы сонные! Каму мы служылі? Цяпер ужо яго нема, і да нас прышла лягчэйшая хвіліна. Дык старацца трэба, каб мы болей нікому не патрэбавалі служыць: ціж ня лепей панамі сабе быць?

Досі ўжо нас так глумілі: мусілі мы ўсіх баяцца, ці гэта быў паляк, ці маскаль. Нашы бедные людцы, калі іх хто крыўдзіў, калі ім хочуць адняць кусок зямлі, ці ім шкоду зробе хто ў лесе—дык хочуць, як дзеці, пажаліцца, хочуць, каб іх хто бараніў, заступіўся за іх. Але куды-ж мы мелі ісьці? Да каго? Да каго мы мелі зьвярнуцца? Ішлі, ведама, да якога-колечы пана, каб парою памог што. А ён як-жэ гэта пазволіць, каб да яго можна было так скора дасупіцца, якжэ гэта пан ў чорным фраку будзе гаварыць з самадзяловай сермяжкай? О, якжэ трудна было нам гэта ўсё перажыць! Сьмяяліся, зьдзекаваліся над намі, як хацелі... А за што гэта, за што? Чы мы не такіе самые людзі, як і другіе? Ніхто з нас, мусіць, гэтага ня ведае, а глаўнае—у нас *веры у сябе мала.*

Праўда, можэ ў вашых душах чулі вы нешта асабліваe, можэ ваш дух узьлятаў да чагось большага, вышэйшага, не хватало вам сіл сабрацца з вашымі мысьлямі, неставало вам слоў, каторымі маглі-б гэта ўсё высказаць! Бо калі-ж вам было да гэтага, калі, дзе толькі заглянеш, у кожнай хаце, пад кожнай страхой, усюды панавала нестача, нешчасьце, хваробы, то страта якая, ці неўраджай, то на скаціну нешта надойдзе, і так беда за бядой—калі не ад Бога, дык ад людзей прыціскала вас заусёды. І стаіць наш брат, заламаўшы рукі і с сэрцам счарнеўшым ад усіх гэтых бядот, наракаючы на лёс свой. Але ціж заўсёды мы будзем так марнець, прапускаючы ўсё міма? Ціж мы маем апусьціць рукі, ад усяго гэтага адрашаючыся?

Скажэ з вас, браточкі, напэўна не адзін: «а куды мне ўжо там лезьці не ў сваё? От, яшчэ буду я там свой голас падаваць! Мой дзень—магіла: я ўжо смерці чакаю!»—О, не кажы лепей так, а прыпомні, як ты жыў? Ці табе лёгка жылося і, калі ты добры бацька быў, што ты пакінеш для сваіх дзяцей? Чым яны цябе спамінаць будуць? Ты памрэш, і мы ўсе ня вечные; так, пакуль час, выдай голас свой, не бяры яго с сабой у магілу.

Цяпер час, с каторага мы можэм скарыстаць. І так, як вянок с кветкаў зьвіты, нехай сплятаюцца нашы галасы с сэрцам гарачым, с чыстай душой і добрай воляй,—нехай сплятаюцца ў адзін вянок, каб яго ніхто ня мог растрэсьці, ні разарваць. Ці-ж не свабаднейшымі мы чуемся цяпер, калі і да нас прыйшла хвіліна гэтая, каторай мы так доўга ждалі? Няўжо-ж мы дадзёмся, каб нас яшчэ таптaлі, як гэтые травы, што пад нашымі нагамі? Праўда, што мы іх топчэм і косім, і скаціна імі пасьвіцца, а другі раз соненька так спаліць, што мала можна пазнаць таго месца, дзе расла залёная травіца. Але ці-ж гэта так і астаецца нязьменна? О, ніколі: нехай толькі дожджык пройдзе, абмые ўвесь пыл, і земля ссохлая прамокне, а тады глянь, як усюды траўка адрастаць стане! Бо яна ў сваім карані, бо нема на сьвеці нікога, хто-бы быў у сіле зьнішчыць і выдзярці з зямлі тое, што створэно так вялікім і мудрым Богам. А мы ціж не далёка раскінуўшыся па гэтай зямлі.

О, нас многа, надта многа ёсьць, апроч гэтых губэрняў, дзе нас найболей, дзе мы—дома і лічымся тутэйшымі. А братцы родные! Ціж вы забыліся, што ад нас ад многіх выехалі нашы родные і разьехаліся па розных гарадох? Усюды ёсьць іх досі, а найболей у Амэрыцы. Ці-ж вы тут не спачуваеце ім, ці вы бяз сэрца? Там здалёку, с чужой стараны лятуць іхные мысьлі, б'юцца сэрцы, рвецца душа ў грудзёх туды, дзе родная іх маці, дзе сёстры і браты, рвецца да зямлі роднай, каторая іх узгадавала, да гэтых лясоў шумлівых, да рэчкі, што віецца наўкола сенажацяў, да палёў кветкамі размаляваных, да хаткі сваей роднай, да сваіх... Ці мы можэм згінуць, прапасьці, калі з нас кожны будзе дабівацца свайго?

Ды цяпер-жэ разам усе ўстаньма, браты, па нашым доўгім сьне! Будзіце адзін другога; калі хто яшчэ сьпіць, вазьмі яго за руку, подымі! Адродзімся нанова, аджывем, як гэтые травы ад дажджу, вызвалімся ад таго, што нас так доўга было прыбіўшы, ад нашых слёзаў с крывёй, што да гэтай пары яшчэ не перастаюць ліцца. Адклікнемся ж усе, дзе толькі хто ёсьць, падамо свой голас, каторы ў нас вырываецца з грудзей: да сваіх, да сваіх . . . . .

. . . . . . . . . . .

І хто-ж з нас можэ не спадзевацца чагось большага па такіх нашых трудох? Можэ яшчэ ёсьць і паміж нас хоць адзін такі, каторы ня добра разумее яшчэ, чаго мы дабіваемся? Вось-жэ, мы хочэм быць самі сабе, каб мы свабодна маглі распрастаць свае рукі, каб мы сьмела маглі стаць сваей нагой на зямлю, ведаючы, што яна не праваліцца пад нашымі нагамі, каб нашы будучые пакаленьні не патрэбавалі ў чужых людзей, каторые адносяцца да нас па зьвярынаму, прасіць якой-колечы помачы. Каб і мы мелі сваіх людзей, каторые нам парадзілі-бы, і памаглі, пацешылі-бы ў нешчасьцях. Каб мы маглі не стыдаючыся і сьмела гаварыць, маліцца, і пісаць па свойму. Каб усяго таго, што кожын з нас жадаў і ня мог дабіцца, былі ў моцы цяпер дайсьці,—вы добра ведаеце, калі вам і што было патрэбна, а вы не маглі і ня мелі нават права выказаць таго, бо ў вашых грудзёх як каменьнем былі прыціснуты вашы правы.

Цяпер усё старое ў нас звалілося перэвярнулося і на гэтых развалінах кожны шукае свайго; ды гэта і нам можна, як усім іншым. Набліжаецца ўжо і наша раніца... Вун... вун здалёк узыходзіць соненька, відаць ужо, як свой блеск кідае на Беларускую зямлю, раскідае свае праменьні, як бы хочэ абняць усіх нас, прытуліць і сагрэць за пражытые намі галады. Ужо нам зьлягчэла; ужо ўваходзіць да нас пэўнейшая надзея.

Дык-жэ ўсе браты і сёстры на зямлі Беларускай, устаньма, працуйма, пакуль нам сіл хваціць, каб не спахмурнело ў нас, а ясьнела, што-раз болей і болей. Гэтак спатыкаючы сьвятло нашага сонца ўсе разам зьбірайма кветкі з нашай зямлі і сплятайма ў адзін вянок, каб з нас кожны мог яго адзець на галаву сваю на знак вытрываласьці да канца.

Здаецца, што ўжо блізка тое, чаго хацелося-бы с шчырага сэрца с помаччу вялікага Бога: што скора счэзьне з нашых кніжэк той напіс, аб якім гаварылося на пачатку, і на яго месцы заясьнее новы, што *«сьвеціць ужо сонцэ і у нашэ ваконцэ»*!

Люся.

# Польская окупацыя на Беларусі.

*(жменька успамінау)*

У апошнім часе ад былых учасьнікаў сумнай памяці легіонаў Доўбора-Мусьніцкага мы атрымалі багата матэрыялаў аб бытнасьці польскіх войск у Беларусі. Друкуем цікавейшые з іх.

Рэд.

Загад Крыленкі аб разброеньні і разформаваньні 1 Польскага Корпуса быў для генэр. Доўбора-Мусьніцкага (камандзера польскага корпуса) прыкрай неспадзеўкай, бо корпус быў раскіданы ў Магілёўшчыне, Меншчыне, Смаленшчыне, Цьвершчыне, а нават і на Украіне. Ген. Доўбор з гэтак раскіданым корпусам ня мог упірацца і дзеля гэтага некаторые з яго атрадаў былі абязброены і разформаваны большэвікамі. Але ўсё-ж такі некаторым з іх удалося прабіцца і заняць крэпасьць і места Бабруйск, у чым, праўду кажучы, вялікай труднасьці ня было, бо большэвіцкіе банды былі арганізованы з людзей, большасьць каторых ніколі ў руках і аружжа не дзержала, і пры першых выстрэлах разьбягаліся.

Трыкутнік польска-большэвіцкага фронту: Асіпавічы-Жлобін-Стары Быхаў сьцягіваўся ўсё болей ды болей і палажэньне палякоў станавілося крытычным, тым болей, што салдаты польскага корпуса, апрача кавалерыі ў дысцыпліне мала чым розьніліся ад большэвіцкіх банд, і ўпадку корпуса трэба была чэкаць што гадзіны.

Гэта было ў пачатку лютага. Як раз у гэтым часе пачалося на расейскім фронце нямецкае наступленьне. Корпус аб'явіў сябе ў адносінах да немцаў нэўтральным, але павёў далей змаганьне з большэвікамі, каторых палажэньне зьмянілося на горшае с прычыны неарганізованасьці і страшэннай панікі, якая пачалася ў большэвікоў.

Дзіўна тое, што расейцы ніяк ня верылі ў магчымасьць нямецкага наступленьня і цяжка каралі тых, хто асьмеліўся казаць аб гэтым.

Нямецкае наступленьне дало магчымасьць паляком заняць Менск.

Польская прэса вельмі разрэклямавала польскую адвагу, «богатэрства» польскіх салдатаў пры заняцьці Менска, але папраўдзі нічога гэткага не было. Заняцьце Менска адбылося вось як:

Яшчэ за два, ці тры тыдні да нямецкага наступленьня ў Менску формаваўся польскі конны атрад, каторы маніўся прарвацца ў Бабруйск да ген. Доўбора, але формаваньне ішло даволі цяжка, бо рабілося гэта пад бокам большэвікоў, каторые нічога аб гэтым ня ведалі і не павінны былі ведаць. Калі ўжо немцы пачалі наступаць, большэвіцкіе ўрады цішком пачалі ўцекаць з Менска і здаецца, быў дадзен загад разграбіць места (напэўна ня ведаю, дзеля таго, што такога загаду не бачыў, а калі і быў такі загад, то ўсё роўна не было-бы каму рабаваць, бо большэвікі ў паніцы ўцяклі). Вось, у часі гэтых уцёкаў атрад разам з другімі на скорую руку арганізаванымі групамі выступіў на вуліцу і пачаў разаружаць большэвікоў, каторые без ніякага апору здавалі аружжэ. Дзіўнога тут нічога немаш, бо большэвікі ў паніцы прад немцамі аддавалі аружжэ нават малым дзецям. (Пішучый гэта сам бачыў, як можэ с 6 хлапцоў-вучняў, па гадоў 12—15, затрымалі абоз, пры каторым была ахрана с 7 ці 8 салдатаў с стрэльбамі, і маскалі ўсё аддалі, толькі прасілі, каб ім выдалі квітанцыю).

Пры такіх варунках зразумела, што арганізованая жыхарамі грамадзянская старожа разам с палякамі захапіла почту, казначэйства і ўсе непасьпеўшые выехаць урады з іх касамі. Як бачым, Менск быў заняты ня гэтулькі самымі палякамі, а проста жыхарамі, і што тут не было ніякай патрэбы засланяць грудзьмі жыхараў ад «зьбыткаў большэвіцкіх банд».

Шкода толькі, што беларусы не здалелі вырваць прынамсі палову грошы ад польскай камэндантуры на патрэбы беларусаў (грошай было больш за 10 мільёнаў, і ўсё гэта пайшло ў кішэні і на патрэбы паноў «в амарантах і з ожэлкамі» або на польскіе арганізацыі — на работу, варожую для беларускага народу.

Па заняцьці Менска між немцамі і польскім корпусам была зроблена ўмова, па каторай была прызнана польская окупацыя ў Беларусі. У склад гэтай окупацыі ўвайшлі паветы: Бабруйскі, Слуцкі, Ігуменскі, Рагачоўскі і Магілёўскі з местам Магілёвам. Аб гэтай окупацыі я і хацеў-бы крыху падзяліцца ўспамінамі.

Польскі корпус складаўся з элемэнтаў даволі такі цёмных (за малымі выняткамі). Афіцэры йшлі туды дзеля таго, што большэвікі павыганялі іх з маскоўскага войска і ня было куды падзецца; салдаты йшлі туды, лічучы на тое, што праз корпус хутчэй пападуць дамоў. Атэстацыі ніхто ніякіх не вымагаў, ніхто не пытаўся, скуль прыйшоў, ці маеш якіе дакумэнты, так што здаралася, што салдаты падаваліся за афіцэраў.

Зразумела, што ў такіх варунках і ад такіх людзей спадзевацца чаго-колечы добрага было трудна. На версі стаялі загадчыкі, у каторых ніякай палітычнай мэты не было, і на край яны глядзелі як на дадзены ім у арэнду, ды дзеля гэтага народ беларускі дзялілі на «chłopów» „большэвікоў". Першые павінны былі аддаваць усё войску, а другіх трэба было вучыць нагайкай. Словам, добрые вучні «мікалаеўскай школы».

На беларускіе школы і прытулкі с падаткаў і даходаў не давалі нічога (на польскіе школы грошы давалі).

Урад на беларускай акупацыі дзяліўся ось як:

Камандзер корпуса: справы ваенные і гражданскіе як начальнік края.

Памочнік яго па часьці ваеннай, памочнік яго па часьці гражданскай.

Начальнік фінансаў і харчаваньня. Камэнданты гарадоў, комэнданты валасьцяў па рэквізыцыі, камэнданты валасьцяў па часьці гражданскай.

Камэнданты па рэквізыцыі былі залежнымі ад рэквізыцыйнай камісіі.

Адносіны ўрадаў корпуса да селян былі кепскімі. Найбольш нацярпеўся селянін ад рэквізыцыі.

Трэба ведаць, што польская рэквізыцыя ня мела ні сыстэмы, ні парадку і рэквізаваў кожны, хто не лянаваўся і больш усяго на сваю карысьць.

Прахадзіўшые ці стаячые ў валасьці легіонеры рэквізавалі ўсё, пачынаючы ад саланіны пад страхой, канём у стайні і канчаючы палатном і грашмі ў скрыні.

Калі селянін зварочываўся з жальбой да начальніка атраду, або прасіў выдаць яму квітанцыю, то ў найлепшым разе атрымываў квітанцыю на часьць узятага, або адыйходзіў з нічым, або даставаў... нагаяк.

Камэнданты ў валасьцёх, ані рэквізыцыйные, ані гражданскіе, нічога не рабілі, каб упарадкаваць справы рэквізыцыі, пры тым яны самі глядзелі, каб набіць сабе коштам селяніна кішэні. Нп. бралі ў арэнду маёнткі, рэквізавалі ў селян насеньне, зганялі селян на прымусовую работу і селяне ў яго працавалі дарма; гэтакі пан жыў сабе вельмі добра, бо апрача арэнды ў маёнтку ўсё меў дарма.

Але часам паны камэнданты ўмелі сабе знаходзіць і другіе даходы. Накладывае камэндант на вёску, або валасьць за што-колечы штраф, а за хабар штраф такі зьнімаўся.

У Бабруйску і ў Магілёве так і ведалі, што калі афіцэр або чыноўнік раз'ежджаў па месьце на сваіх конях, п'яны рабіў скандалы, кідаў грошы налева і направа, цягаўся з проститутткамі, то гэты афіцэр або служыў у інтэнданцтве, або быў камэндантам у валасьці.

Што тут дзіўнога афіцэры. У корпусе салдаты мелі сваіх мэтрэс і нават не па аднэй, а па дзьве, і гэта ўсё хадзіло ацзетымі як вялікіе пані, а скуль салдаты бралі на гэта грошы?—З рабунку.

Цікаўны факт (у Магілёві яго шмат хто ведае), апаведаў мне ксёндз Х., капэлян аднаго з палкоў 1 дывізіі.

«Неяк у поўдзень іду я па вуліцы, кажэ ксёндз, а перада мной ідуць двое селян і адзін прад другім жаляцца, што ня могуць дастаць яец. Я зацікавіўся вельмі на што ім патрэбны яйца, тым болей, што да Вялікадня было шмат часу і пытаюся ў іх на што ім так патрэбны яйца. Тады мне селяне сказалі, што камэндант валасьці загадаў усім гаспадаром даставіць камэнданту па адным сыру, кварце сьметаны і 20 яец. Хто гэтага ня выпаўніць, той будзе аштрафован на 300 руб. Ваенны капэлян, ведаючы добра, што такой рэквізыцыі назначэно ня было, паехаў разам з селянамі да камэнданта (6 вёрст ад Магілёва) з гутаркі з камэндантам даведаўся, што рэквізыцыя гэта назначэна самадумам на карысьць камэнданта. А тут каля камэндантуры ўжо чэкалі перакупцы.

Гэты факт дзякуючы ксяндзу Х. стаў галосным, а колькі ёсьць такіх, аб каторых ня ведаем?

Селянін жаліцца ня мог, а па праўдзі мог, толькі яго з усюль гналі. Ужо каб дастацца да п. памочніка па гражданскай часьці, трэба патраціць шмат часу, пахадзіць ад стала да стала, ад ад'ютанта да ад'ютанта, кожнаму апаведаць гісторыю спачатку і ў канцы пачуць: „Wynoś się, nie zawracaj głowy!" і так не бачыўшы п. начальніка ісьці дамоў.

А ўжо каб дабіцца да самага ген. Доўбора-Мусьніцкага, то трэба хіба радзіцца ў сарочцы. Тут напэўна пяройдзеш праз дзесяць рук і ў канцы пачуеш: „dowódca zajęty i dziś przyjąć nie może!" Трэба ведаць, што польскаму афіцэру не заўсёды ўдавалося бачыць Доўбора, то што-ж казаць аб селяніне, маючы на ўвазе абходжэньне п.п. штабных чыноўнікаў і афіцэраў, с каторых кожны ўважаў сябе ня меньш як за віцэ-караля.

Ці генэр. Доўбор-Мусьніцкі ведаў аб гэтых непарадках? Так, мусіў ведаць, бо шмат хто зварочываў на гэта яго ўвагу.

Што-ж дзіўнога, што селяне не знаходзючы сабе ўправы часам крывава мсьцілі легіонерам. І што-ж з гэтага выходзіло? Прыежджалі уланы, пачыналіся разстрэлы, біцьцё шомпаламі і нагайкамі, рабунак, турмы, штрафы.

Дзеля лепшай ілюстрацыі варункаў жыцьця хоць-бы ўзяць гэтакую гісторыю, быўшую сёлета ў маі. У Бабруйскім павеце ёсьць вёскі Вялікіе і Малые Бортнікі гэтай жэ валасьці. У гэтай валасьці быў камэндантам нейкі ротмістр З. Чэлавек мала інтэлегэнтны і да абавязкаў камэнданта ня створэны. Справамі валасьці не цікавіўся. А за яго ўсё рабіла яго каманда, зложэная з 6 салдат. У гэтым часе была назначэна рэквізыцыя каней, рэквізавалі значыць у Бартнікоўскай валасьці. Але дзякуючы таму, што ў рэквізыцыі парадку не было, пабралі коні апошніе ў адных гаспадароў, а ў другіх, хто меў больш чым аднаго, зусім не ўзялі. Вось адзін с так пакрыўджэных селян прыйшоў да камэнданта з просьбай, каб прагледзіць варункі рэквізыцыі. Камэндант гэтага чэлавека добра пабіў і выкінуў праз дзьверы, так што той чэлавек палежаў мусіць з гадзіну, пакуль ачухаўся. На заўтра прад домам комэнданта забралася таўпа і ўзноў прасіла, каб камэндант зьмяніў варункі рэквізыцыі. Камэндант пачаў іх лаяць. У гэтым часе хтось з дзяцюкоў выстрэліў і раніў яго лёгка ў шыю. Другім выстрэлам быў цяжка ранены салдат камэнданта. Камэндант уцёк у Бабруйск, скуль прыслалі ў Бортнікі... конную экспэдыцыю.

Атрады пяхоты, артылерыі і кавалерыі падыйшлі пад Бортнікі на другі дзень пад вечар. З вёскі пачулося некалькі выстрэлаў, дзеля гэтага атрад начэваў у полі. Раніцай легіонеры ўвайшлі ў вёску. Жыхары з вёскі ўцяклі, асталіся толькі старые ды хворые.

Пачалася расправа: з жыхараў, каторых растрэлялі, некалькіх дзеўчат згвалтавалі, разграбілі хаты, сьвірны, краму спажыўчага хаўрусу, парэзалі сьвіньней, курэй. Нп. можна было бачыць такіе абразкі як улан з жоўтымі лямпасамі з шаблей у рупэ ганяўся за сьвіньнёй, а п. афіцэр «у амарантах» лавіў гусей. Пагуляўшы так тры дні, абедзьве вёскі былі спа-

